## ДАЛУЧАЙЦЕСЯ ДА ПРАТЭСТУ

Шаноўныя чытачы! З гэтага выпуску рэдакцыя выключыла зялёную фарбу ў сваёй традыцыйнай двухкаляровай гаме, каб гэтым знакам пасведчыць наш рашучы і патрабавальны пратэст супраць гвалтоўна-антызаконнай палітыкі ўладаў у дачыненні да зялёных каштоўнасцяў краіны, перш-наперш яе запаведна-ахоўных тэрыторый. М ы   п а т р а б у е м : 1. выканання артыкулаў 14 і 20 Закона "Аб асабліва ахоўных тэрыторыях і аб'ектах"; 2. захавання ўмоў і рэкамендацый Рады Еўропы, якія з'яўляюцца абавязковымі для Бярэзінскага біясфернага запаведніка і Нацыянальнага парка "Белавежская пушча"; 3. вяртання статуса запаведнікаў нацыянальнаму парку "Белавежская пушча" і нацыянальнаму парку "Прыпяцкі".

Далучайцеся да пратэсту. Чакаем вашых тэлеграм, факсаў, лістоў на адрас рэдакцыі. Працяг тэмы на старонцы 9

З любоўю да ўлоння

№6 (21)
Снежань 1999

# БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА

Беларуская прыродалюбная асветна-публіцыстычная газета

Двухмесячнік




Фота: Уладзімір Лацкевіч

### Увагі рэдакцыі

Вечнага нічога няма. Як сама прырода чаргуе з'явы, формы і станы, гэтак і наша газета рыхтуе змену свайго аблічча. З наступнага года наша выданне пачне выходзіць ў абноўленым, А-4 фармаце, які, на думку рэдакцыі, у большай меры будзе адпавядаць квартальніку. Тым самым папярэднія выпускі, а гэта 21 нумар, або 19 сшыткаў (2 з іх падвойныя), на жаль, адыходзяць у мінулае — як першы этап аўтарскага выдавецкага праекта, але — не знікаюць. Напісанае застаецца. На старонках 6-7 мы змяшчаем кароткую рэтраспекцыю ўсіх нумароў, каб разам азірнуцца назад, на пройдзены шлях, на наша "зялёнае поле".

У рэдакцыі тым часам засталося трохі асобнікаў з таго, што выдавалася. Каго зацікавіць такое "выбранае", будзем рады зрабіць паслугу. Толькі за 1999 год, паводле замоваў, у раёны адпраўлена больш за сто падшывак "БП".

Усім, хто пасябраваў з нашай газетай, мы кажам і надалей: будзьма разам верныя добраму шчыраму настаўленню нашага ранняга папярэдніка публіцыста Сяргея Паўловіча: "...Дбаць пра славу свайго краю, шырыць думкі беларускія". Пра што думае сённяшні беларус, а таксама пра што і як будзе думаць ягоны нашчадак, — залежыць, між іншым ды ўсім астатнім, і ад таго, што мы пішам і што друкуем, што чытаем і што распаўсюджваем.

З Божым Святым Нараджэннем!

З 2000-м годам!

*Г а з е т а выдаецца з 1995 года адзін раз на два месяцы, з 2000 года-- штоквартальна*

*Л а ў р э а т еўрапейскай прэміі Генры Форда "За захаванне культурнай спадчыны і ахову навакольнага асяроддзя"- 1999*

*З а с н а в а л ь н і к і р э д а к т а р Валеры Дранчук*

*Д л я к а н т а к т а ў : 220088 Мінск, вул. Іванаўская, 38-16 Тэл. (0172) 36-50-76, факс 220-23-53 e-mail: NPpushcha@irex.minsk.by*



*For the first time, this issue of the newspaper has been published without its traditional green ink. In this way, we wish to draw public attention to the fact that money-motivated business projects are now being implemented in our national parks. The paper asks you to "Join the Protest" (continued on p9).*

Слова рэдактара

## Краіна Іванаў

Больш як год таму наша газета не перабольшвала, калі заўважыла пра адну характэрную з яву (цытую): *"Сонейка заходзіць, і над Пушчай згушчаюцца прыцемкі"*. Недвухсэнсавая заўвага мела дачыненне да іншых, куды больш "прыцемненых" акалічнасцяў, чым проста хвіліна сутак. У Пушчы тымчасам дагэтуль не развіднелася—дзейнасць беларускіх запаведна-ахоўных тэрыторый пастаўлена з ног на галаву. Тут насамрэч пануюць густыя прыцемкі: грэбліва адсунуты ў бок закон, праігнараваны шматлікія нормы міжнароднага экалагічнага права, абражаюцца ўяўленні пра нацыянальныя каштоўнасці...

Апошні раз, калі я наведаўся ў Пушчу, мне людзі на гэта адказвалі, называючы адно прозвішча "наверсе",—і разводзілі рукамі. Іншыя глядзелі шырэй: пакуль не зменіцца ўлада і гэты палітычны курс —лепшага нічога не ўбачым. Па вяртанні ў Мінск называнае "прозвішча", якое з Пушчы не хутка выдзьмуць нават самыя халодна-сцюжныя вятры, нечакана апынулася ў палітычных некралогах дэмакратычнай прэсы —уладное месца з выглядам на запаведныя тэрыторыі Беларусі знянацку запусцела.

Цяпер нават не верыцца, што нехта іншы, а не сам Іван Іванавіч Ціцянкоў будзе перарэзаць стужачку на адкрыцці супер-цэха лесаперапрацоўкі ў нацыянальным парку.

Вось думаю, няхай бы ўсё ж гэта быў ён. Асабіста мне, калі б глядзеў на дзею яшчэ адной нацыянальнай ганьбы, прыгадаўся б незадаўнены эпізод палітхронікі нашай скрыўджанай краіны: праўдзівая нацыянальная сымболіка гвалтоўна замяняецца на штучную, часовую. Асабліва вылучыўся тады загадчык гаспадаркі №1 таварыш Ціцянкоў (ёсць кінакадры)... І вось паралель, дзень сённяшні— грандыёзны "лесапільны" праект сымбалізуе сабою 60 гадоў ад снежня 1939, калі беларускі ўрад прадэклараваў (але так і не спраўдзіў) запаведнасць Белавежскай пушчы. Уяўляеце, наперадзе—фігура Івана... І, магчыма, не я адзін падумаў бы: "Ведаем, ведаем гэту птушку! Да ахоўных прыродных тэрыторый мае стаўленне прыкладна такое ж, як і да бел-чырвона-белага сцягу, які ён парваў на часткі чатыры гады таму".

Але гэта ўжо будзе не ён.

Зрэшты, хто б ні перарэзаў стужачку, Івана Іванавіча ўсёроўна ўспомняць. Словам ці думкай, а ўспомняць. Магчыма, і лесапілку ў Пушчы назавуць імем былога, але яшчэ вельмі рэальнага Івана Ціцянкова. У такой краіне жывём. Хтосьці так і сказаў: "краіна Іванаў".

Перапрашаю, каго пакрыўдзіў.

Валеры Д р а н ч у к



# Адпачывала ўсё: і лес, і поле, і неба глыб...

*Анталогія ў перакладзе з грэцкае мовы значыць* ***букет кветак.*** *Старажытныя грэкі так называлі зборнікі выбраных твораў паэзіі*



*Малюнак: В.Д.*

***Янка Купала***

**З і м о й у л е с е**

**І лягла ж цішыня**
**У бары за гарой, —**
**Каб дравінка адна**
**Хоць кіўнула сабой.**

**Снег пушаны залёг**
**На галінках сасон,**
**І чарнобель, і мох**
**Атуліў сабой ён.**

**Сокат птушак замёр,**
**Як бы поўнач была,**
**Адно свісне тапор**
**ды зазвоне піла.**

**Гэта сілу сваю**
**Так прабуе мужык;**
**Рухнуў дуб на зямлю,**
**Як магуч і вялік...**

**Далей – глуш, цішына**
**Убары за гарой, —**
**Каб дравінка адна**
**Хоць кіўнула сабой**

***Янка Лучына***

**(1851-1897)**

**Ш т о д у м а е Я н к а, в е з у ч ы д р о в ы ў г о р а д**

**От і свята, от каляды,**
**На марозе скрыпяць санкі...**
**Ўсе на свеце святку рады,**
**Ўсюды песні і гулянкі.**
**Скачуць хлопцы і дзяўчаты,**
**А гарэлкі п`юць ці мала?!**
**Адно слова – ўсюды свята.**
**Ну! кабыла, чаго стала?!.**

**Чаго стала?!. скажаш – цяжка,**
**Ды й не надта ж ты і сыта.**
**А мне ж лёгка?.. глядзь, сярмяжка**
**Стара... рвана... ветрам шыта...**
**стаў кранчэй мароз ка святу,**
**Ось і зорка заблiскала.**
**Хоць скарэй бы мне ў хату.**
**Ну! кабыла, чаго стала?!.**

**Дроў у месці многа трэба**
**І цана ж на іх сярдзіта,**
**Прадам дровы – куплю жыта.**
**От і лезу з цяжкім возам,**
**Як бяда ў карк пагнала**
**Такім ліхам ды й марозам!..**
**Ну! кабыла, чаго стала?!.**

***Максім Багдановіч***

**З а в і р у х а**

**У бубны дахаў вецер б‘е,**
**Грыміць па ім, звініць, пяе,**
**І спеў ліецца ўсё мацней –**
**Гулянку справіў пан Падвей.**

**У бубны дахаў вецер б‘е,**
**Грыміць па ім, звініць, пяе,**
**Ўскіпела снежнае віно,**
**І белай пенай мкне яно.**

**У бубны дахаў вецер б‘е,**
**Грыміць па ім, звініць, пяе,**
**На вулках вее дзікі хмель,**
**Гудзіць сп‘янелая мецель.**

**У бубны дахаў вецер б‘е,**
**Грыміць па ім, звініць, пяе.**

***Наталля Арсеньнева***

(1903-1997 )

С н е г п а д а ў

Снег падаў з неба іскрачкамі зор...
Ён крыў зямлю каронак дыванамі.
Чуць вецер шапацеў
між голымі клянамі
І ўдаль ляцеў туды,
дзе сніў прастор

Ды насам зубчатым сінеўся бор
Над агалёнымі даўно палямі,
Што скутыя ляжалі маразамі,
Адпачываючы ад летніх змор...

Адпачывала ўсё: і лес, і поле,
І неба глыб... А чалавека доля?
Не, доля людзкая — усцяж цярпець,
Шукаць чагось з нязнанаю тугою,
Глядзець на крыўды, зло і летуцець
Аб яснасці нязнанага спакою.
1924

***Міхась Чарот***

(1896 -1938)

Л ю б л ю

Балотам снежным праз сасоннік,
Які смаловым пахам вабіць,
Прастор балот зімою сонны
Люблю санямі разухабіць.

Люблю, як кусцік нізкарослы,
Калі з саней назад паглянеш,
Нібы адкінуўшы ён вёслы,
Плыве на белым акіяне.

Пукаты стог люблю аб‘ехаць,
Сляды наўкол зрабіць палоззем,
І сена, выскубнуўшы вехаць,
Люблю раскідаць па дарозе.

***Уладзімір Жылка***

(1900-1933)

З і м о в а е

Снег, завея; вецер вее,
Круціць, дзьме
Віхар гонкі, гучны, звонкі
Ў белай цьме.

Комам ... сынка, снегам сыпка
Сее сеў
Носіць тайны, спеў адчайны,
Смерці спеў.

Я ... рывожны... ў бездарожжы,
Ў беспуцці
Воля-вехаць. Як даехаць?
Як дайсці?

Сівер злосны, вее млосна,
Міма ймкне.
Дзе прыпынак, дзе спачынак?
Блукаць мне.

Холад, сцюжа... Сцежка вужай
І размах.
Стыне сэрца ў паняверцы,
Множыць жах...

Гнецца ніжай, к долу бліжай
Галава...
Лёс нямілы: крыж пахілы
І жарства!

1923

***Паўлюк Трус***

З п а э м ы "Д з е с я т ы п а д м у р а к"

* * *

Зноў зіма паслала
снежныя кілімы,
Зажурыла беллю
паплавы, лугі,
І прыходзіць радасць
у красе маўклівай.
Адплываюць хвалі
смутку і тугі...

А сняжынкі сеюць
кволую імглістасць,
Падаюць бялюткі
за маім акном,
І цвіце на вішнях
снежная ўрачыстасць,
Сцелецца на скронях
перад раннім сном.

Хочацца навеяць
казкі-таямніцы
Гукамі мелодый,
радасцю без слоў.

І застылі сцені
у маёй святліцы,
Засынаю... Сніцца
роднае сяло.

***Міраслаў Фларыян (Чэхія)***

П а д л я м п а й с н е г у

*Зямля пры светлай лямпе снегу*
*там, дзе палёў, лясоў харом,*
*чытае том, спасланы з неба,*
*пяяркі, чорна-белы том...*



*Фота:*
*Аляксей Мацюш (Мінск)*

***Сяргей Грахоўскі***

* * *

Вось і зіма,
А мроіцца, што лета
Прыйшло у цвеце ліп,
І грэчка расцвіла.
Здаецца мне –
Выходжу росным следам
У паплавы суседняга сяла.
А за акном лютуе завіруха
І на сумёт накручвае сумёт,
На шыбах снег
ляжыць іскрыстым пухам
А ў хаце пахне грэчкай чысты мёд.

***Валенці Цэйкен***

(Італія)

У т о п і я

Перспектыва, што гэтае жыццё
можа ўраз перарвацца і што
генетычныя змены могуць
прывесці кожны населены від
да забыцця сваёй біямадэлі
мабыць і робіць надзвычай моцнымі
энцыклапедыі.
Як новыя каўчэгі прыроды
што хоць бы ў адбітках-малюнках
даюць нам магчымасць ўратаваць
апошнія тыны жыхароў Сусвету

***Валеры Драпчук***

**У ч а к а н н і з і м ы**

**Ліст падняты ветрам**
**заляцеў у люфцік**

**хутка за ім следам**
**заляціць сняжынка**

**завіхурыць снежна**
**белаю крупою**

**забялеюць наперш**
**вузкія сцяжынкі**

**Хтосьці скажа госьцю**
**"Дык заходзьце ў хату!"**

**хтосьці сам нарэхціць**
**завітаць у госці**

**Снег пайшоў. Чакалі?**
**Дык святкуйце з намі**

**Свята на парозе**
**Просім ягамосьцю!**

## SUMMARY

*Our poetry anthology page presents some Belarusan and foreign authors embracing winter and the severe ecological crisis.*



# Старонкі беларускай хрэстаматыі

Фота: Віталь Прошча

Малюнак з кнігі: "Другое чытанне для дзяцей беларусаў", С.-Пецярбург, 1910

## Міхась Лынькоў.

### З апавядання "Воўчы лог"



**У дарозе зімою**

Хораша ў полі зімою... У полі аснежаным, дзе такія гурбы прыгожыя, неахопная шырыня і празрыстае неба, што пачынае цямнець з надыходам вечара.

Серабрыцца снег, мігацяць незлічоныя мільёны брыльянцістых іголак, вецер-кусака шчыпле за шчокі, нос. Забіраецца за каўнер, невідзімкаю прабіраецца пад кажух са сваёю халоднаю пяшчотай. Тулішся, пацягваешся, падбіраеш пад сябе ногі, да якіх вельмі ахвоч мароз са сваімі балючымі пацалункамі. Але ўсё ж такі добра. Так бадзёра скрыпяць палазы, снежны пыл ляціць з-пад капыт, абдае цябе ледзяністымі пырскамі, аж зажмурваеш вочы. А коні бягуць, падганяць не трэба – дарога чыстая, дарога слізкая, чаму ж не бегчы.

Надыходзіць вечар, сінеюць снегавыя гурбы, ад бледнага месяца цягнуцца празрыстыя промені і не ззяюць, а тлеюць над лесам і полем. Сінія цені плывуць за кустамі, кладуцца ў баразёнкі, у снегавыя сумёты. А зоры, тыя нібы вылецець хочуць з сваіх гнёздаў, да таго зыркія, бліскучыя яны ў марозным паветры.

І салодкі сум закрадваецца ў сэрца, ціхі сум, непазнаны. Здаецца, што пяюць над табой срэбныя жаўранкі, заліваюцца таемныя бомы цудоўнымі танюсенькімі пераліваміі, якія акунаюць цябе ў небыццё... Нібы вясна абымае цябе пахучымі кветкамі.

Ты пачынаеш драмаць...






**SUMMARY**

*Our Belarusian prose pages picture the Belarusian landscape in winter. These lyrical interludes should evoke fond recollections of an unforgettable childhood among readers, and remind them of the expressive beauty of their native language.*

## Эдуард Самуйлёнак.

### З апавядання "Паляўнічае шчасце"

**Рака ўзімку**

Узімку рака мае іншы выгляд. Яе наглуха забівае снегам. Цэлыя гурбы снегу ляжаць на кустах, звешваюцца з берагавых абрываў. Снег усюды белы, сыпкі, неба гэткае ж малочна-белае, шчыльна кладзецца на ўскрай берагоў, і калі чалавек трапляе ў рэчышча, яму здаецца, што трапіў ён у нейкі інакшы свет, на інакшую планету, дзе бель снегу ўгары і ўнізе і ўрачыстае маўчанне зімы.

Але ў гэтым белым свеце ёсць цікавае, непрыкметнае на першы погляд жыццё. Сюды прыходзіць звер. Тут шныраюць тхары, гарнастаі, шкалдыбаюць зайцы, крадуцца лісы, тут поўна ўсялякага дробнага звера, і нават часам трапляе ў рэчышча разважны воўк. І нават не адзін, а больш іх прыходзіць шукаць спажывы. Зацішна ў рацэ, кожнаму звяру прытулак.

Прыходзілі ўначы пажывіцца горкай крушынай асцярожныя зайцы. Яны ўзнімаліся на заднія лапкі, стаялі стаўпкамі, грызлі мёрзлую кару, перабіраліся з куста ў куст, ныраючы пад снежныя шапкі гурбаў, што ляжаць на спляценнях гушчару, і пакідалі за сабой несуразны след. Калі глядзіш на яго, здаецца, што ішоў звярок на пяці лапках.

Крыху ў бок ад зайцавага следу лёг чоткі, роўны след; лапа за лапу. Гэта падкрадвалася да зайцаў лісіца. Яна балансавала пушыстым хвастом, падрыхтоўваючы пружкі скок, усё яе цела было настрыненым, выцягнутым, падрыхтаваным. Вось тут яна стаяла, магчыма, дзесяткі хвілін, чакаючы таго, пакуль захоплены смакам крушыны шэры камок неасцярожна падкоціцца бліжэй. Адгэтуль — скачок. Далей ідзе блытаніна заячых і лісічых слядоў, і вось на завароце ракі — развязка. Аб ёй сведчыць чырвона-бурая пляма на снягу і рэдкія кавалачкі шэрага пуху.

Роўненькая сцежка дробных слядкоў прашыла раку ад берага да берага. Гэта бегла звычайная мыш-палёўка. А з боку гэтага следу—двайны след. Гэта імкнуў услед за мышшу люты драпежнік тхор. Глыбокі, грузны след. Гэта бухнуў пад абрыў непаваротлівы воўк. Ён меў на ўвазе ўсіх: і лісаў, і зайцаў, і, магчыма, меркаваў падысці рэчышчам пад калгасную абору, адкуль нясе сытным мясным духам і адкуль даносіцца кволае бляянне ягнят.

Жоўтыя чарвячкі з белымі галоўкамі — гэта памёт цецеравоў. Сядзелі грузныя, шэрыя і сінія птушкі на гнуткім вецці маладога беразняку, вольхі і асінніку, адшуквалі, выглядалі ў гушчары крывава-чырвоныя кроплі змерзлых ягад каліны, якія колерам сваім падобны да колеру грэбняў адважных цецеравіных самцоў. Густая сетка дробных птушыных слядоў сведчыць аб тым, што тут нядаўна дружным шэрым табунком прабягала стада курапатак.



# Вада жывая, святая

## Першая ў Беларусі царква-мураванка – Полацкі Сафійскі сабор – была ўзнятая там, дзе біла з зямліцы крынь-крыніца

*Замёрзла ноччу шпаркая крыніца*
*Твая пара, зімовая нуда!*
*Цяпер няма ўжо руху ні сляда,*
*І нават зверху слоем снег лажыцца.*
*Ды ўсё дарма, бо там, пад ім, струіцца*
*Магутная, жывучая вада...*

**Максім Багдановіч**

***Аляксандр Голубеў,***
біёлаг

*Аўтару артыкула разам з навукоўцамі выпала мажлівасць на працягу апошніх гадоў аддаць шмат увагі вывучэнню беларускіх крыніц. Навуковыя праблемы, відавая разнастайнасць флоры і фаўны, пытанні аховы пазначылі кола гэтай задачы. Абследавана больш за 200 крыніц. Свае ўражанні, назіранні, высновы даследчык адрасуе ўсім, хто неабыякава ставіцца да спадчыны роднага краю.*



*Фота: Валеры Дранчук*

### *Колькі звестак на самы пачатак*

Крыніцы, альбо натуральныя вадаплынныя выйсці з зямлі на паверхню, з'яўляюцца найадметнымі вадабадзямі, шмат чым адрознымі ад іншых тыпаў паверхневых вод. Нават улетку тэмпература ў крыніцах мала калі перавышае 10-12 градусаў па Цэльсію. Затое ўзімку яна не апускаецца ніжэй 2-3 градусаў; як вынік – крыніцы не замярзаюць і ў самыя халодныя, сцюжныя зімы. Нізкая тэмпература, што ўвесь час трымаецца тут, і чысціня вады варункуюць сабой і адметную "крынічную" фауну. Выяўлена ўжо за 200 відаў водных бесхрыбетных, з якіх больш як 40 адзначаны ў Беларусі ўпершыню. Тым часам гэтыя лічбы далёка не канчатковыя. Што цікава, асобныя віды не ёсць тыповымі для фауны Беларусі як раўніннай краіны ў зоне ўмеркаванага клімату. Сярод іх – некаторыя холадалюбныя водныя жукі, кляшчы і плоскія чарвякі, якіх раней заўважалі хіба толькі ў халодных азёрах Скандынавіі і высокагорных ручаях Альпаў ды Карпат. У Беларусі гэтыя віды здольныя выжыць адно ў халоднай крынічнай вадзе. Як яны тут апынуліся —захаваліся з часоў апошняга ледзянення, ці паступова пранiклі з іншых мясцінаў па ланцужку ручаёў ды крыніц – яшчэ належыць высветліць заолагам. Зрэшты, ці так гэта важна ў параўнанні з задачай іх захавання ў фауне Беларусі?

Вакол крыніцаў разрастаюцца супольнасці раслінаў, пра багацце якіх можа сведчыць прысутнасць асабліва рэдкіх, чырвонакніжных відаў. Прыкладам, адзінае вядомае месца разрастання хвашча вялікага ў Беларусі – менавіта ля крынічнага ўлоння на беразе Прыпяці.

Спрадвек служылі крыніцы і чалавеку, давалі яму пітную ваду. У параўнанні з вадой большай часткі рэк і азёр, крынічная была шмат чысцейшая, мела добры смак і валодала гаючасцю. Як на сённяшні погляд, менавіта ў крынічнай ваде няма спабуджальнікаў цяжкіх для чалавека захворванняў. Мабыць, таму нашы продкі верылі ў магічную сілу крынічных вадатокаў, што мкнулі з таемных глыбіняў падземнага царства. Шмат якія крыніцы дагэтуль маюць найменне Святых – Святая крыніца, Святы калодзеж, Святы ручай і інш.



** удзельнікі навукова-даследчай экспедыцыі ля капліцы "Крынічка ля Багіні", пабудаванай на пачатку XX стагоддзя.*
*Вёска Дубкі (Смаргонскі раён), левы бераг Віліі.*
*Верасень, 1998*

*Фота: Юры Мухін*

### *Святая вада*

Продкі-беларусы глыбока шанавалі мясціны, адкуль прабівалася, мкнула наверх "жывая" вада. Крыніцы й калодзежы называліся "прошчамі", гэта ў іх – высокатаемных увасабленнях святой сілы – людзі прасілі даравання за магчымыя грахі, перапрашалі, спадзяваліся на дапамогу і спрыянне духаў прыроды. Крыніцы станавіліся цэнтрамі духоўнага жыцця, тут ладзіліся язычніцкія абрады, вакол гэтых мясцінаў нітавалася шмат розных звычаяў і паданняў. Дый у казках цудадзейную "жывую ваду" здабывалі няйнакш як у крыніцах.

Шматвяковыя традыцыі пераняла і хрысціянская царква. Вада з крыніцы абвяшчалася "святой", а знакамітае месца давала падставу яго ўшанавання – будаваліся шматлікія храмы, капліцы. Напрыклад, першая мураваная царква ў Беларусі – Полацкі Сафійскі сабор – была ўзнятая ля вытокаў крыніцы.

### *Лекі з... архіўных крыніц*

Лекавацца з крыніцаў на Беларусі пачалі яшчэ ў сярэднявеччы. У 1786 годзе акадэмік А.Мілер падае звестку пра Міхееўскую, або Святую крыніцу пад Крычавам. ("Апісанне Крычаўскага графства"). Ён асабліва зазначае, што "мясцовыя жыхары верылі ў цудадзейную сілу гэтай крыніцы, купалі ў ёй хворых дзяцей, і, пакідаючы ў купальні іхняе адзенне, спадзяваліся, што разам застануцца і ўсе немачы ды хваробы". Кінутыя ў ваду медныя манеты пакрываліся бліскучым налётам, быццам гэта быў выраб самай свежай чаканкі.

Мілер даводзіў, што з'ява тлумачыцца "прысутнасцю ў вадзе серных і жалезістых часцінаў".

Акадэмік Севяргін у пачатку XIX ст. піша пра незвычайны для Беларусі выток вугляхкіслых вод "на поўнач ад Магілёва ў вярсце ад Палынкавічаў, што пры дарозе на Шклоў" і пра тое, што на ім была пабудавана каплічка, ля якой збіраліся людзі, што верылі ў гаючую сілу вады.

Бліжэй да сярэдзіны XIX ст. выкарыстанне крыніц Беларусі з лячэбнай мэтай было пастаўлена на навуковы грунт. Так, хімічную будову вады крыніцы на беразе возера Баркоўшчына (Ушацкі раён) у 1843 годзе даследаваў медык і хімік Яндт. У 1855 доктар Неміроўскі арганізаваў тут санаторый, дзе паспяхова вылечваў хворых на нежыць (залатуху), паляруш, рэўматызм. Швейцарскі вучоны Рабаў, які пабываў тут, згадвае санаторый як адзін з лепшых еўрапейскіх здраўніц такога тыпу. Санаторый функцыянаваў да вайны (у 1941 быў знішчаны нямецкімі акупантамі).

Папулярным на свой час быў і санаторый у Відзах (Браслаўскі раён), дзе скарыстоўвалі ваду мясцовых крыніц. У архівах захаваліся звесткі пра тое, што " у студзені 1819 уніяцкі біскуп Галоўня, які пакутваў ад касталоміцы, выехаў на лячэнне сернымі крынічнымі водамі ў мястэчка Відзы". На жаль, і гэты санаторый не існуе, а сярністая крынічка захавалася да нашага часу.

Сёння значэнне крыніц шматразова ўзрастае з тае прычыны, што гэта ўжо апошні рэзерв чыстай пітной вады ў Беларусі. Мяркуйце самі: колькасць нітратаў, нітрытаў і цяжкіх металаў у вадзе шматлікіх крыніц, асабліва тых, якія знаходзяцца сярод лесу, значна меншая, нават калі яе параўноўваць з нарматывамі дзяржстандарту для пітной вады пасля адпаведнай ачысткі. Крынічныя вадатокі дагэтуль застаюцца лакальнымі запасамі водазабеспячэння ў шматлікіх вёсках, мястэчках і гарадках. Продаж чыстай крынічнай вады, усебакова пра-



***Аляксандр Голубеў.*** *Нарадзіўся ў Мінску ў 1950. Закончыў біяфак Белдзяржуніверсітэта. З 1972 навуковы супрацоўнік Інстытута заалогіі Акадэміі навук, дзе працуе і зараз. У 1999 абараніў доктарскую дысертацыю. Даследуе водных бесхрыбетных. Займаецца выкладчыцкай дзейнасцю, выступае ў навукова-папулярным жанры, шмат увагі надае інтэрпрэтацыі экалагічнай праблематыкі. Браў удзел у шматлікіх міжнародных навуковых канферэнцыях (Польшча, Швецыя, Чэхія, Славакія, Венгрыя, Германія, ЗША і інш.)*

**SUMMARY**

***This section's article discusses Belarusian natural springs. The author, A.Golubev, DSc, undertook several expeditions and researched over 200 unique springwater sites. The material he gathered in the process was the basis for this overview, which also includes facts of general and historical interest.***

*Газета "Белавежская пушча" развівае традыцыі экафундатарства. Гэты раз тэмай захавання крыніц як нацыянальнай прыроднай спадчыны апякуюцца*
***мінскае арэнднае прадпрыемства "Крыніца" і вытворчае аб`яднанне "Мінскводаканал"***



думаны і добра арганізаваны, можа даваць і значны прыбытак.

Як і ў далёкія часы, крыніцы маглі б стаць своеасаблівымі духоўнымі цэнтрамі – месцамі пакланення роднай зямлі, запаветнымі куточкамі на турысцкіх картах, экскурсійных маршрутах, сродкам экалагічнага выхавання і навучання.

### Спроба падліку: відавочнае – накуль неадольнае

Колькі ў Беларусі крыніцаў, наўрад ці хто сёння скажа дакладна. Скажа, што вельмі многа. Або пастрымаецца ўвогуле, бо ў дзяржаўным маштабе такі падлік не праводзіўца. У капітальным даведніку "Блакітная кніга Беларусі" (1994) крыніцы нават не ўспомненыя сярод тыпаў паверхневых вадабадзяў. У міністэрстве прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя на ўліку трымаюцца хіба што крыніцы – помнікі прыроды рэспубліканскага або мясцовага значэння. Асобныя, вельмі няпоўныя звесткі пра крыніцы, якія знаходзяцца ў лясах Дзяржфонду, ёсць у Міністэрстве лясной гаспадаркі краіны.

Тым часам у Германіі і Нідэрландах, напрыклад, зафіксавана і занесена на карту месцазнаходжанне нават самага маленькага выйсця падземнай вады, не кажучы пра значныя або вялікія вытокі-ложы.

Гаварыць пра неабходнасць адмысловага Кадастра крыніц Беларусі як часткі нацыянальнага спісу прыроднай спадчыны – зусім не значыць быць арыгінальным. Бо гаварылася і не раз. Аднак неабходнасць гэтая – сёння ўжо бясспрэчная відавочнасць, адступаць, як кажуць, няма куды. Складанне Кадастра крыніцаў дасць магчымасць выявіць аб'екты, асабліва каштоўныя ў навуковым, гістарычным, культурным кантэксце, рацыянальна выкарыстаць іх натуральны рэсурс і, што самае галоўнае, захаваць, зберагчы для нас і нашых наступнікаў гэтыя жывыя цуды прыроды.

Даследванні паказалі, што размеркаваны крыніцы па тэрыторыі Беларусі вельмі няроўна. Выйсці вады з зямлі – крыні – вельмі часта "прымеркаваныя" да падножжаў узгоркаў, крутых схілаў азёрных волмінаў, берагоў рэк, глыбокіх яроў. Таму вельмі шмат крыніц на Мінскім узвышшы, Свянцянскіх ляхах, у Беларускім Паазер`і. А вось у нізкіх і забалочаных ландшафтах Палесся іх значна менш.

### "Няма таго, што раньш было..."

З вялікім шкадаваннем даводзіцца канстатаваць, што лік крыніцаў ва ўсіх рэгіёнах Беларусі ў апошнія гады вельмі хутка змяншаецца. Апытанне мясцовых жыхароў, перш-наперш людзей старэйшага ўзросту, паказала поўную аднадушнасць меркаванняў: так, раней тут былі крыніцы, але пасля меліярацыі, будаўніцтва, высечкі лесу і г.д. яны пазнікалі...

Вось колькі характэрных прыкладаў такога "знікання".Першая згадка пра крыніцу блізу вёскі Крупцы (сёння мікрараён Вяснянка г. Мінска) датуецца 1612 годам, калі на ёй, згодна з легендай, з`явілася цудатворная ікона. З таго часу крыніца асабліва шанавалася жыхарамі і шматлікімі паломнікамі. Недалёка ад яе неўзабаве паўстала царква Маці Божай Крупецкай на крыніцы. Нават пасля таго, як у 1936 царква пайшла пад знос, на крыніцы ўпотай ладзіліся рэлігійныя абрады. Але ўрэшце рэшт не ўстаяла і сама крыніца, была знішчаная ў 60-я гады, калі пракладваўся праспект Машэрава. Так званыя "крыніцы", якія тут нібыта ёсць і цяпер, — не што іншае як звычайны зліў падземнай вады з трох артэзіянскіх свідравінаў, прабітых у 1993 годзе.

Яшчэ прыклад. Пры канцы XIX ст. у Губернатарскім садзе г. Мінска (цяпер Цэнтральны дзіцячы парк імя Горкага), ля падножжа Юсцінай горкі была крыніца з лячэбнай сярністай вадою. Пасля шэрагу новабудоўляў, у тым ліку і будаўніцтва летняй эстрады, яна перасохла.

У Нясвіжскім парку ля Радзівілаўскага замка захавалася ўтульная мясціна пад назвай "студня Ундзіны". Сёння гэта, на жаль, рэшткі калодзежа, які раней жывіўся крынічнай вадою і... шматлікімі паданнямі. Перасталі бруіцца і крыніцы ў навакольных вёсках Карцэвічах і Малеве, адкуль у XVIII ст. ваду вывозілі бочкамі асвянчаць ёю манастыры Нясвіжа.

Гэтыя прыклады сведчаць, што крыніцы могуць існаваць праз стагоддзі і болей, калі зберагаць іх прыроднае асяроддзе. Аднак любая прыкметная паруха будзе дастатковаю, каб яны зніклі ў самы кароткі тэрмін і назаўсёды.

### Не нашкодзь!

Апошнім часам шмат дзе можна заўважыць прыкметы людскога клопату пра ацалелыя крыніцы. Такая ўвага зусім зразумелая: асланіць каштоўнасць, не даць яе разбурыць. Аднак бывае, што добрыя намеры маюць зусім гарацешны вынік. Прычына – непрафесійнае ўпарадкаванне мясцінаў паблізу населеных пунктаў. Большасцю яно атрымала форму калодзежных зрубаў . Або ставіліся вертыкальныя трубы ці калодзежныя колцы на самае крынічнае ложа. Што ў выніку адбывалася? Для невялікіх крынічак павелічэнне аб'ёму вады ў колцы азначае застойванне, заглейванне і забалочванне, змену тэмпературнага рэжыму. Гэта ў рэшце рэшт і набліжае сумны канец. Халадалюбныя і патрабавальныя да чысціні вады віды жывёлаў хутка знікаюць, іх месца займаюць "звычайныя", больш устойлівыя да новых умоў жыцця.

Трубы і колцы становяцца пасткамі не толькі для амфібій і рэптылій, але і мышападобных грызуноў і нават дробных драпежнікаў – ласкаў, куніцаў. Больш за тое. Некаторыя "акультураныя" крыніцы ў курортнай зоне на беразе Нарачы і ў парку Лагойска з часам ператварыліся ў смеццезборнікі.

Зрэшты, калі крыніцы і выжываюць пасля такога парадкавання, іх першароднае аблічча ўсёроўна зьначваецца і ўрэшце рэшт страчваецца, спецыфічныя і надта ломкія экалагічныя сістэмы трансфармуюцца і ўжо не могуць заставацца крынічнымі ў навуковым сэнсе.

### Аб'екты і праекты

Можна, аднак, і парадавацца: яшчэ далёка не ўсё страчана. У натуральным, не парушаным стане захавалася даволі шмат крынічных вадатокаў. Большасцю яны размяшчаюцца ўдалечыні ад паселішчаў, часцей у схавах цяжкадаступных лясных атулкаў. Зразумела, пералічыць іх усе немагчыма, гэты раз толькі спынім увагу на некаторых, найбольш цікавых.

Самая вялікая на Беларусі **Блакітная крыніца**. Знаходзіцца непадалёк ад вёскі Кліны (Слаўгарадскі раён). Гэта ўжо нават цэлая азярына дыяметрам 20-25 метраў блакітна-смарагдавага колеру. У нетрах крыніцы заўсёды бурліць вада, быццам пад яе дном раскладзена вялікае вогнішча. Кожныя суткі Блакітная крыніца прадукуе да 5000 "кубікаў" пітной вады з глыбіні 100-200 метраў, дзе яна цыркулюе ў тоўшчы крэйдавай вапны і што надае ёй дзівоснае чысціні.

**Святыя крыніцы** на беразе рэчкі Удранкі (Мінскі раён) адметныя тым, што іхнія выйсці знаходзяцца не ля падножжа высокага берага-ўзгорка, а ледзь не на самай ягонай вяршыні. Крынічныя вадатокі хуткацечна збягаюць па крутым схіле ў рэчку. На дзвюх такіх ручаінах ёсць вадаспады вышэй за метр. Вядома, іх не параўнаеш з Ніягарскім, аднак справядліва і тое, што для беларускага краявіду – гэта і частка неад'емнасці, і частка экзотыкі адначасна.

**Юцкаўская крыніца** блізу в. Юцкі (Дзяржынскі раён) знайшла выйсце ў вузкім і глыбокім яры, густа парослым цяжкапраходным хвойнікам. Падземныя вадатокі сочацца па сценках яра, збягаючы ў буйны ручай, які нагадвае невялікую горную рэчку, што мкне ўніз па звілістым рэчышчы паўз валуны і залеглыя камяні.

Найбуйнейшая і наймаляўнічая ў Беларускім Паазер'і **Больцыкская крыніца** ляжыць блізу возера Вялікі Больцык (Мядзельскі раён) у азёрна-лясным і ўзгоркавым ландшафце Свянцянскай грады. Яна мае некалькі моцных выйсцяў вады з дыяметрам ложа да 0,5-0,7 метра, якія даюць сілу ўжо не ручаіне, а цэлай рэчцы шырынёю да 8-10 і глыбінёю да 1,5 метра.

Гэтыя крыніцы з'яўляюцца помнікамі прыроды рэспубліканскага значэння, аднак іх вага і каштоўнасць не абмяжоўваюцца толькі рамкамі Беларусі. Як унікальныя прыродныя аб'екты, яны вартыя ўлучэння ў Спіс сусветнай прыроднай спадчыны. І гэтыя святыні, і шмат якія іншыя ў Беларусі годныя стаць аб'ектамі міжнароднага экалагічнага турызму на карысць і багацце краіны.

Варта, праўда, зазначыць, што абсалютная большасць крыніц не вылучаюцца памерамі ці асаблівымі эстэтычнымі характарыстыкамі. Але тое зусім не значыць, што гэткія "радавыя" аб`екты прыроды не вартыя павышанага дбання. Іх належыць ахоўваць перш-наперш як рэдкасныя вадабадзі. Калі не прыняць адпаведных захадаў, большасць захаваных натуральных крыніц знікне ўжо ў блізкай будучыні. Страцім не толькі ўнікальныя экалагічныя сістэмы, але і цэлы пласт культурнага і гістарычнага асяроддзя нашай нацыянальнай спадчыны.

### Тэхналогія аховы: з чаго пачаць

Калі рабіць канкрэтныя захады па ахове крыніц Беларусі, дык неабходна, мяркую, пачаць гэта з заканадаўчай базы. Бо менавіта тут хаваецца прычына шматлікіх затрымак. Напрыклад, у дзейных да цяперашняга часу Палажэннях Савета Міністраў БССР "Аб водаахоўных палосах (зонах) малых рэк Беларускай ССР" і "Аб водаахоўных палосах (зонах) вадаёмаў Беларускай ССР" крыніцы і крынічныя ручаіны нават не ўпамінаюцца.



** крынічны струмень спяшаецца ў возера Гомель (прыкладна на дзесятым метры ад выйсця).*

*Полацкі раён. Верасень, 1998.*

*Фота: Юры Мухін*



**а гэтая крынічка, якая калісьці паіла адзін з прытокаў Нёмана, трапіла ў меліярацыйную пастку, але працягвае падаваць прыкметы жыцця.*

*Стаўпецкі раён, красавік, 1998.*

*Фота: Неруш-прэс*

ступені вызначаецца станам прылеглай тэрыторыі, перш-наперш расліннага покрыва. У гэтым сэнсе найбольш аслоненыя лясныя крыніцы, бо лес заўсёды меў павышаную ўстойлівасць да знешняга ўздзеяння.

З гэтай нагоды вынікае наступнае:

**вакол крыніц і ручаінаў павінны быць вылучаныя ахоўныя зоны, дзе выключаецца ўсялякая гаспадарчая ды іншая дзейнасць, якая можа згубна паўплываць на прыродны стан і жыватворнасць крыніцы (будаўніцтва, дарожныя і гідрамеліярацыйныя работы, паша і вадапой жывёлы і г.д.);**

**лясы навокал крыніц і ўздоўж крынічных ручаёў павінны быць аднесеныя да водаахоўных з абавязковым пераводам з другой у першую групу.**



** рака Свіслач у Мінску. Лістапад, 99*

*Фота: Валеры Дранчук (Неруш-прэс)*

Мы, жыхары Беларусі, маем канстытуцыйнае права карыстання прыроднымі рэсурсамі, заадно і крыніцамі. Гэта ж накладвае і абавязак: не чакаючы адмысловых законаў і дасканалага заканадаўства, пільнавацца хоць бы няхітрых правілаў карыстання крыніцамі. Іх няшмат і яны ўсім зразумелыя:

*па-першае,* **не разбураць і не парушаць крынічнае ўлонне на выйсці падземнай вады;**

*па-другое:* **не засмечваць крыніцы і прылеглую тэрыторыю.**



## Ад рэдакцыі!

*Вывучэнне крыніц толькі пачынаецца. Таму спадзяёмся на зацікаўлены водгук з боку чытачоў: настаўнікаў, краязнаўцаў, усіх, каму дарагая спадчына Бацькаўшчыны. Любая інфармацыя пра вядомую крыніцу будзе з удзячнасцю прынятая і разгледжана. Ваша апісанне дапаможа ў працы, якую можна зрабіць толькі разам. Дык не цягніце! Чакаем звестак. Лісты дасылайце ў рэдакцыю “Белавежскай пушчы” або на адрас:* ***А.Голубеву, Інстытут заалогіі НАН, вул. Акадэмічная, 27, г. Мінск***



**Шаноўныя чытачы!** У нашых анонсах былі абяцаныя тэмы, якіх рэдакцыя пакуль не спраўдзіла. Дазвольце запэўніць: мы на іх не забыліся, і ўсё,што абяцалі, абавязкова споўнім у наступных выпусках.
**Будзьце здаровыя, заставайцеся з газетай “Белавежская пушча”!**

Руда (Нарвегія) пра варону. Алень з залатым крыжам. Гродзенскаму гербу з выявай Аленя Святога Губерта споўнілася 500 гадоў.

1998, №2(11) Р у б р ы к і: *Анталогія, Спадчына, Лад, Апакаліпсіс, Занатоўкі, Кветкі раю, Набат, Кола, Ніша, Белая вежа, Нашыя словы!*
Мы – дзедзічы! Слова рэдактара. Прытулак чар і пекнаты. Беларуская і замежная лірыка. Стаць “аўтарам” прыроднага помніка не менш ганарова, чым напісаць паэму або намаляваць шэдэўр. Як надаць аб`екту прыроднай спадчыны ахоўны статус? Інтэрв`ю. Сацыяльныя карані экалагічных катастрофаў. Пра эканамічны рост як адну з прычынаў антыэкалагічных наступстваў. Паланез Агінскага. Канец XX стагоддзя. Фрагменты сцэнарыя. Жаўранак тваёй душы. Убачанае і перажытае побач з прыродай. У воблаку бэзавых мрояў. Эсэ пра бэз – кветку вясны і ўспамінаў. Лесанарыхтоў- чыя ды лесапаляўнічыя тэндэнцыі нахабна і цынічна завалод- ваюць дзейнасцю на асабліва ахоўных лясных тэрыторыях Беларусі. Сітуацыя ў Нацыянальным парку “Прыпяцкі”. Вяшчальны хор, вясновы звон. Вядомае і малавядомае пра жаб. Зніч красы і кахання. Імёны з беларускай міфалогіі – Ляля і Ярыла.

1998, №3(12) Р у б р ы к і: *Анталогія, Патрыётыка, Спадчына, Ніша, Па-над межамі, Кветкі раю, Мартыралог, Набат, Кола, Кліч Касандры, Лад, Белая вежа, Каляндар.*
Куды вядуць зямныя дарогі. Слова рэдактара. Кветніца з ружаў лета. Беларуская і замежная лірыка. “О, любоў мая, Беларусь!”. Фрагменты спадчыны Уладзіміра Караткевіча. Незахаваная Тураўшчына. Погляд сталага жыхара. Дажджавы земляны чарвяк: чым больш у глебе, тым яна лепшая. Лепш не ведаць танных красовак і працаваць на заводзе, які не труціць ваколіцы. Што паказалі вынікі аднаго сацыялагічнага апытання? Белыя-белыя зоркі ў затоках. Эсэ пра белую лілею. Разбіты азёрны кухаль. З гісторыі возера, якое знікла з аблічча зямлі. Калгасныя лясы маўкліва паміраюць... Сведчанні спецыяліста-эколага Тадэвуша Шастака. Чалавецтву не пагражае “Чырвоная кніга”, але выжывуць мацнейшыя. Інтэрв`ю з антрапалагам, доктарам біялагічных навук акадэмікам Аляксеем Мікулічам. Адыходы таксама ёсць жаданыя і нежаданыя. Найлепш тыя, якія добра гніюць. Кампаставанне адыходаў ёсць адным з простых спосабаў падтрымаць чысціню асяроддзя і дапамагчы навакольнай прыродзе. Ноч малая ды Купальная! Фотарэпартаж пра народнае свята.

1998, №4(13) Р у б р ы к і: *Анталогія, Каляндар, Па-над межамі, Ніша, Занатоўкі, Лад, Кліч Касандры, Кола, Ліцэй, Лужок, Набат, Белая вежа, Альбом.*
Праўдзівая спадчына. Слова рэдактара. Калі апаў першы ліст на зямлю. Беларуская і замежная лірыка. Час пакланення і ўшанавання. Святым крыжам беларусы маліліся і ў царкве, і ў храме прыроды. Адлётныя згукі нябёсаў. Фенамен птушыных вандроўных міграцый дагэтуль хавае шмат таямніц. Мільён плужкоў для сядзібнай дзялянкі. Дажджавы чарвяк – “санітар зямлі”. Працяг тэмы. На мяжы, паміж летам і восенню. Лірычныя занатоўкі Васіля Феранца. Перад красой пейзажа. Англійскі філосаф і культуролаг Джон Роскін пра значнасць ахову ландшафтаў. Генетычная трываласць нацыі залежыць ад непарушнасці прыроды і багацця яе краявідаў. Працяг інтэрв'ю з антрапалагам, доктарам біялагічных навук акадэмікам Аляксеем Мікулічам. Ва ўмавах, што нас акаляюць, мала перайсці на экалагічна чыстыя прадукты – трэба спыніць прэс на прыроду. Ліст студэнта Гродзенскага універсітэта Яраслава Пятроўскага і каментар з рэдакцыі. Дом для нашчадкаў, альбо Сем філасофій узаемадачыненняў чалавека і прыроды. Трактат педагога-эколага Яўгена Церахава. Алесіна сонейка. Дзіцячая старонка. Нацыянальны парк “Браслаўскія азёры” стаў месцам гвалтоўных землярыйных работ. Інфармацыя- SOS. Белавежскі паляўнічы палац. Трагічны лёс цудоўнага твора архітэктуры.

1998, №5(14) Ру б р ы к і: *Анталогія, Тут, Лад, Кліч Касандры, Каляндар, Альбом, Па-над межамі, Кола, Белая вежа, Спадчына.*
Беларусь-адыёзус, ці Беларусь – краіна зялёных каштоўнасцяў? Слова рэдактара. Стрэсен апошні арэх, кветкі завянулі ўсе. Лірыка беларускіх і замежных аўтараў. Дзяржаўная дача ў Віскулях. Фотарэпартаж. Беларускі турыстычны прадукт яшчэ не знойдзены, але хутчэй за ўсё ён мае выгляды нашых зялёных ваколіцаў. Паводле тэзісаў дакладаў для міжнароднай канферэнцыі “Выкарыстанне прыродных тэрыторый у рэкрэацыйных і турыстычных мэтах: экалагічныя аспекты.” Устаяць перад сілаю ўладнага прагматызму. Інтэрв'ю з вядучым спецыялістам Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Здзіславам Мураўёвым. Адпачынак на ўлонні прыроды. Развагі і перасцярогі вядомага амерыканскага эколага і пісьменніка Олда Леапольда. Краявід. Дзіцячая старонка. У Піліпаўку. Паводле ўспамінаў сучаснікаў. Што кажух – то не вата... Фотазамалёўка пра адвечнае. Таемныя мясціны Вялікабрытаніі. Нататкі з запаведнікаў, што з'яўляюцца ўладаннямі Каралеўскага таварыства аховы птушак. Брукаванка. Музей пад адкрытым небам? Мроя-праект газеты "Белавежская пушча" на трывалым грунце ацалелага рарытэту. Паштоўка з дарогі.

№6 (15)1998 - 1(16). Рубрыкі: *Анталогія, Дэкларацыя, Патрыётыка, Тут, Кола, Зялёны Фронт, Лужок, Апакаліпсіс, Белая вежа, Каляндар.*
Душа зямлі і душа беларуса. Слова рэдактара. У нас ёсць права спытаць... Беларуская і замежная лірыка Кожны чалавек мае права на жыццё. Да 50-годдзя Усеагульнай Дэкларацыі правоў чалавека (ААН, 1948). Я люблю... Дзіцячыя творы на тэму “Любіць пырроду”. Культура і прырода. Са спадчыны польскага публіцыста і доктара права Яна Паўлікоўскага (1860-1939). Белавежская пушча: Каляндар прыроды. Студзень-люты. Чытачы газеты цікавяцца... Пытанні і адказы. Беларусам трэба рашуча заяўляць сваё “не”... Удзельнікі экспедыцыі сведчаць пра абыякавае стаўленне ўладаў да Закона “Аб асабліва ахоўных тэрыторыях і аб`ектах”. Будаваць АЭС на Беларусі -- значыць паўтараць Чарнобыльскі шлях. Яшчэ раз пра перспектыву развіцця атамнай энергетыкі і пошук альтэрнатывы. Зялёнае золата Бацькаўшчыны. Што можа ўрад, каб паспрыяць нацыянальнаму лясному фонду. На грамніцы. Пра сымбаль чалавечае веры ў вечнае і дарагое.

№2 (17). Рубрыкі: Анталогія, Канвенцыя, Край, Альбом, Кола, Тут, Белая вежа, Дзень зямлі.
Хай дні прыбываюць надзеяй. Слова рэдактара. Вільготная ад расы нітачка павуціны не спыніць хаду бульдозера. Беларуская і замежная лірыка. Знікненне відаў адбываецца з-за дзейнасці чалавека. Канвенцыя ААН аб біялагічнай разнастайнасці. Аўтапартрэт з вербалозных галінак. Падарожжа па рэчышчы забітай рэчкі. Экалагічнае эсэ. Спіраль жыцця як сведчанне біялагічнай разнастайнасці беларускага ўлоння. Фоталірыка біёлага Уладзіміра Блінова. То ўзаемна! Чытачы адказваюць на пытанні анкеты. Белавежская пушча: каляндар прыроды. Сакавік-красавік. Возьмемся разам! Штогод 22 красавіка ў свеце адзначаецца Дзень зямлі.

№3 (18). Р у б р ы к і: *Анталогія, Узнагарода, Канвенцыя, Край, Лужок, Кола, Тут, Белая вежа, Ад Скарыны.*
Аблёт аграландшафтаў. Слова рэдактара. Я правяду цябе на ўлонне бэзу... Беларуская і замежная лірыка. Выдавецкі праект “Газета “Белавежская пушча” стаў лаўрэатам конкурсу Еўрапейскай прэміі Генры Форда. Узнагарода ўручана ў Бярэзінскім біясферным запаведніку. Аб доступе да інфармацыі і ўдзелу грамадскасці ў ходзе прыняцця рашэнняў, а таксама аб доступе да правасуддзя па пытаннях, якія датычаць навакольнага асяроддзя. “Орхуская” канвенцыя ААН, якую ратыфікавала Беларусь. Аўтапартрэт з вербалозных галінак. Падарожжа па рэчышчы забітай рэчкі. Экалагічнае эсэ. Працяг. Ідзі ў родны край... Вуснае народнае слова. З днём народзінаў, вольнае птаства! Месячнік цішыні. Палёт дзікай качкі, убачаны ўвачавідкі. Лісты чытачоў. Белавежская пушча: каляндар прыроды. Травень - чэрвень. Шэдэўры светабудовы. Захаванне адвечных каштоўнасцяў на зямлі ёсць справай святой.

№4 (19). Р у б р ы к і: *Анталогія, Канвенцыя, Права VETO, Нерушы, Тут, Кола, Край, Белая вежа, Аўтограф.*
Вада і цень. Слова рэдактара. Хай іншыя жывуць у золаце палацаў, а мне найлепшы чын – дай бог застацца у спадчынным гняздзе. Беларуская і замежная лірыка. Аб водна-балот-ных угоддзях, якія маюць міжнароднае значэнне... Рамсарская канвенцыя. Віды дзейнасці, якія вымушаюць асаблівай пільнасці. Паводле артыкула 6 Орхускай канвенцыіі. Экалагічныя правы і абавязкі, замацаваныя ў Канстытуцыі Беларусі. У нататнік эколагіста. Была б воля і годнасць дзяржавы. Вялікая частка экасістэмаў былога Прыпяцкага запаведніка мусіць быць аднаўленая ў сваім запаведным статусе. Белавежская пушча: Каляндар прыроды. Ліпень- жнівень. Толькі ў пашане і ўдзячнай зычлівасці да сусвету чалавецтва здольнае выжыць. Лісты чытачоў. Аўтапартрэт з вербалозных галінак. Падарожжа па рэчышчы забітай рэчкі. Экалагічнае эсэ. Заканчэнне. Пейзажны парк у Князеве. Фотарэпартаж з Зельвінскага раёна.

№5 (20). Р у б р ы к і: *Анталогія, Канвенцыя, Спадчына, Нерушы, Тут, Ліцэй, Аўтограф, Лес - лёс, Нашыя словы, Кола, Кліч Касандры, Белая вежа, Дзяды.*
Гэта наша з табою зямля! Слова рэдактара. Сцішна над возерам, воблачна ў небе... Беларуская і замежная лірыка. Рада Еўропы засведчыла кампетэнтную ўвагу да якасці і абароны ландшафтаў. Прынята Еўрапейская канвенцыя аб ландшафтах. І азваўся Герцэнаў звон. Дрымучая справа” з хронікі Белавежскай пушчы застаецца актуальнай праз 138 гадоў. Калі мы працягваем рукі – запаведнікі працягваюць ногі. У інтэрв'ю газеце “Комсомольская правда в Беларуси” В. Дранчук уважае, што прамыслова-гаспадарчае асваенне нацыянальных паркаў прывядзе да іх поўнага вынішчэння. Белавежская пушча: Каляндар прыроды. Верасень- Кастрычнік. “Мікроб – гэта нішто, умовы – гэта ўсё!”. Выслоўе Луі Пастэра гучыць як урок вялікага настаўніка, які не засвоілі сучаснікі. Чым за морам віно піць, лепш з Нёмана вадзіцу. Той, хто застаецца з Радзімай, павінен дбаць пра чысціню і жыццядайнасць родных крыніц. Зялёная спадчына Стаўпеччыны. Кола. Пісьмы чытачоў. Была “жамчужынай Беларусі...” Замест ратаўнічага кола на возера Нарач накідаюць пятлю. Булатаўшчына – капішча маіх малітваў. Мройны суплёт. Малітва за Беларусь. З малітоўніка “Божым шляхам”. Рым, 1946.

SUMMARY

*Belavezhskaya Pushcha 1995-1999: sections, articles, brief contents*



# Белавежская пушча: каляндар прыроды

**Віктар Бахараў,**
біёлаг(Гродна)

## Лістапад



Спакой і аціхласць прыроды пануе паўсюль. Змоўк і лес, нязвыкла прыбраны і чысты. Няма ўжо тых колераў-фарбаў, што нядаўна яшчэ зачароўвалі ўражанне сваім буяннем. Увесь *пейзаж* Пушчы ўвасоблены ў выразныя чорна-шэрыя тоны. Адно бяроза і дуб трымаюць лістоту. Пачатак месяца ў Пушчы заўжды выдаецца з туманамі, дажджамі-імжакамі. Амаль усе *птушкі* зляцелі на поўдзень. Зрэдку хіба што на возеры Лядскія ці Перароў заначуе касяк гусей, што лятуць з Поўначы, — апошнія чароды самых далёкіх мігрантаў. Аднак, лістапад – гэта і час навасёлаў: у Пушчу зляцаюцца зімаваць крыжадзюбы, стракатыя арэхаўкі, пеначкі, рагатыя жаўрукі.

*Рыбы* ракі Лясной, Нарава пачынаюць хавацца ў ямы – на зімовыя кватэры. За перыяд зімы ў Пушчы на рэках часам здараецца падвойны слой лёду: пасля моцнай адлігі ўсталёўваюцца злосныя маразы і трымаюцца з тыдзень; за гэты час і дабудоўваецца другі лядовы "паверх". Робіцца цяжка рыбе. Паветра не можа прайсці скрозь падвойныя застаўкі, што спрычыняе паморы. Праўда, на рэчках, дзе вада не спы-няецца, паморы не здараюцца, а на азёрах у халодныя зімы яны нярэдкія – рыба шалёна хапае глыткі жыцця з прадоўбленага акенца. Выпадае гэта, як правіла, на другую палавіну зімы, і егерскалавецкая служба Пушчы мае за клопат, каб як мага ўнікнуць наступстваў. І ўсё ж вясной пасля раставання лёду на бераг выкідваецца шмат нежывой пагінулай рыбы.

Да *халадоў* рыхтуюцца й мошкі: каторыя з матылёў (лімоннік, крапіўнік, паўлінава вока) зімуюць, знаходзячы атулак там, дзе не дзьме і зверху добра ахутвае снегавой коўдрай. Аднойчы на ўскраіне Пушчы я ўбачыў пад корчыкам матылька. Гэта было паўлінава вока. Памятаю, тады, на пачатак лістапада, выдаліся халодныя дні, і матылёк зрабіў першую спробу "ўцячы" ад зімы, склаў крылцы ў затульным куточку. Я дакрануўся пальцам, і брудна-цёмны колер вонкавай часткі крылцаў змяніўся цудоўным сакаўным малюнкам знутры. Растуленыя крылцы паказвалі, хто гэта і як яго завуць. Мой новы знаёмец пачаў нерухава і асцярожна перабірацца на лепшае месца. Яго невялікія памеры ў параўнанні з летнімі, звычайнымі падказвалі, што вырас матылёк увосень на вельмі сціплых небагатых харчах. Мне зрабілася яго шкада, і я далікатна перасадзіў матылька пад кару таго ж корчыка. Няхай зімоўка будзе паспяховай!

*Лес Пушчы* на пачатку лістапада ўжо падрыхтаваны да першага снегу і, здаецца, толькі й чакае ўрачыстага моманту. Гэта найбольш адчуваецца ў цэнтры вялікага лесу. Нават 500-гадовы дуб нехаця-марудліва скідае апошняе лісце. Дарэчы, гэта не адзіны патрыярх Пушчы такога веку. Непадалёку расце сасна, якая мае 450 гадоў. Што цікава, сасна, як і дуб, пладаносіць. Час, аднак, бярэ сваё – крона яе пакрысе засыхае, а на зямлі ўжо не ўбачыш ранейшага россыпу шышак. Але яны ўсё ж ёсць – і дзятлы даўно апанавалі камель пад прыватныя кузьні; калі не хапае шышак "сваёй" сасны, побач лёгка знайсці іх на суседніх маладых соснах.



*Малюнак з кнігі Г.Карцава "Белавежская пушча..." (1903)*

**SUMMARY**

***These phenological notes from Viktar Baharau conclude our Belavezhskaya Pushcha Nature Diaryseries.***

> Віктар Бахараў
> названы рэдакцыяй
> Аўтарам года.
>
> *...Мне хацелася праз каляндар прыроды далучыць чытачоў газеты да маленькіх фрагментаў і сведчанняў, якія найбольш уразілі і ўзрушылі мяне, засталіся ў памяці, час ад часу спанукаючы ўзяцца за асадку і штосьці перадаць на словах*
>
> Аўтар

Стараўзроставыя дрэвы маюць не адно эстэтычную каштоўнасць, але й вялікае значэнне для навукі. На сваіх гадавых кольцах яны перахоўваюць мноства інфармацыі пра падзеі ў прыродзе за кожны год. Напрыклад, масавае асушэнне ваколіцаў Пушчы "занатавана" адметным выразным почыркам – кольцы тут асабліва шчыльныя. Нават чарнобыльская навала пакінула свой след на хімічным складніку гадавога кольца. Шкада, што дагэтуль навука не здольная адчыніць усе гэтыя тайніцы з каштоўнай інфармацыяй.

Калі ж азірнуцца на пракаветны дуб, ягоны гістарычны зрэз уражвае. Развінаў крону ў часы Івана Жахлівага і Пятра І. Зведаў нашэсце Напалеона і помніць страшныя пажары 1811 і 1834 гадоў. Быў сведкам знакамітага жудасна крывавага "палявання" Аляксандра ІІ увосень 1860. Вытрымаў ураган 1880, чуў перастук і чуханне першага цягніка на Белавеж, бачыў варварскі вываз драўніны ў Нямеччыну (1915-1918). Замерваліся спілаваць і старое магутнае дрэва. Але ні захопнікі, што ішлі на наш край, ні зламыснікі новай, пасляваеннай улады не адужалі сілу прыроды. Волатны дуб ацалеў.

Пачатак месяца – сапраўдны карнавал зімовай моды. Зубр на гэты час паспявае апрануцца ў цёплую шубу з добрым падшэрсткам – і ў гурбе не змерзнеш. Заяц-бяляк накінуў белае зімовае футэрка і ў шэрым лесе выглядае надзвычай эфектна, калі б... не адна абставіна – цяпер яго ўсе заўважаць: і ліса, і сава. Мадыстка *вавёрка* прыгожае летняе плацце мяняе на шэрае, цяплейшае. *Дзік, ліса, воўк* таксама змянілі вопратку ў прадчуванні халадоў.

Недзе ў сярэдзіне лістапада з'яўляецца доўгачаканы *снег*. Усе лясныя жыхары Пушчы загадзя ведаюць гэтую дату. Як правіла, конадзень выдаецца характэрным: халоднае надвор'е з посвістам ветру ў мокрым галлі дрэў змяняецца нязвыклаю цішынёю. З вечара на Пушчу кладзецца шэрая коўдра хмараў, хутка цямнее. Апоўначы распачынаецца першая дзея зімы: з неба ціхутка апускаюцца рэдкія прыгожыя сняжынкі. Аднак сапраўдны снегапад запланаваны на раніцу, звычайна перад досвіткам. Гадзін з шасці прырода шчыруе так, што праз гадзіну суцэльная чарната лесу гэтак жа паўсюдна і хораша выбяляецца. Вось і зіма завітала.

## Снежань



З праўдзівым снегамнерушам у Пушчу прыходзіць і вялікая адказная падзея – *рэвізія*. Па беламу тропу" егеры-лаўцы лічаць лясных жыхароў. Пасля першага снегу тыя як бы заміраюць, а затым пачынаюць перамяшчацца, пакідаючы сляды на квартальных прасеках. Па гэтых слядах ідзе дэталёвая *падлічка*: колькі ды якіх звяроў жыве ў Пушчы.

Вывучэнне жыцця лесу па слядах яго жыхароў — занятак, увогуле, дужа цікавы і пазнавальны. Вось характэрны след зайца. Гэта ўчора, яшчэ да поўначы, ён на крэйсерскай хуткасці джгаў на месца жыравання. А вось і начны клуб зайцоў. Шмат натоптана і віднеюць пагрызы. Пройдзеш вярсту-паўтары, заўважаеш заечыя хітрыкі: след падвоены або ўвогуле абарваўся. Гэта значыць, касавокі зрабіў скачок ўбок і залёг недзе побач мордачкай да следу... А вунь там, дзе куча ветралому, падняўшы ўгару чорны кончык хваста, паляваў на мышэй *гарнастай*. Непадалёк снег пад елкай закіданы чаранкамі шышак – прыгледзеўшыся, заўважаеш і вавёрчыну сталоўку. Дзівосны гэта звярок! Надзіва хутка прывыкае да добрых рук, каго хочаш ашчасліваць сваім даверам...

Здаецца, у блізкім гушчары азвалася *сойка* – самы праўдзівы абарыген Пушчы. Палясоўшчыкі пацвердзяць, што зімой сойкі так і "ходзяць" за імі следам, пільнуючыся хуткага абеду. Маючы добры зрок, яны ўбачаць з лахматых лапаў ялін, куды тыя кінулі які недаедзены кавалачак, каб тут жа з галінкі зляцець у пульхны снег, падняць спажыву й вярнуцца на сук яе пакляваць.

У *сарокі* паводзіны іншыя. Калі ўлетку яна сялібуе ў лесе, дзе шмат спажывы, дык з надыходам зімы хіліцца да чалавечых паселішчаў — тут заўжды знойдзеш годны сілкунак.

Снежань у Пушчы прыгадваецца мне шэрымі кароткімі зімовымі днямі, раннімі сутоннямі, але й так жаданымі праблiскамі сонца ў марозныя дні. Іскрыцца снег, і вячэрняе сонца – нарумяненае, поўнабарвовае – стомлена кладзецца ў пярыну пранізліва сініх хмараў на гарызонце. Яркая вячэрняя зорка – Венера – радасна абвяшчае сваім святлом, што хутка ўжо Новы год.

Новы год – гэта свята людзей і свята жыхароў лясных нетраў. Тым часам пад Новы год нерастуе мянтуз, у крыжадзюба й вавёркі з'яўляецца вывадак — час ідзе і, на шчасце, яго не спыніць. **З Новым годам, шаноўныя чытачы!**

 





*штабялі назапашанага белавежскага лесу побач з вытворчымі цэхамі нацыянальнага парку "Белавежская пушча"*

*Фота: Валеры Дранчук*

# Дзейнасць беларускіх запаведных тэрыторый сёння пастаўлена з ног на галаву

## Яшчэ адно пацвярджэнне гэтаму — "лесапільны" праект, спушчаны ў Белавежскую пушчу

**В.Д.**

*Практыка гаспадарання, разлічанага выключна на цвёрдавалютны і валютаёмісты вынік, звяла на мізер, калі не на поўны нуль, прыродаахоўную, навукова-даследчую, культурна-пазнавальную ды іншую дзейнасць прыродаахоўных устаноў, стварыла тым самым небяспечную дыспрапорцыю, якая і ёсць грубым адступленнем ад Закона "Аб асабліва ахоўных прыродных тэрыторыях і аб`ектах" (гл. артыкулы 14, 20). На працягу апошніх гадоў ставяцца сумнеўныя, антынавуковыя эксперыменты, якія адцягваюць сілы калектываў і кіраўніцтва гэтых тэрыторый ад першачарговых задач, а ў шэрагу выпадкаў супярэчаць іх статусу і рэжыму.*

У нацыянальным парку "Белавежская пушча", напрыклад, колькасць працоўных месцаў даўно перасягнула тысячу адзінак, хоць яшчэ нядаўна трымалася лічбы 700-800, прычым гэты рост ледзь паспявае менавіта за тымі відамі дзейнасці, якія, мякка кажучы, не адпавядаюць прыродаахоўнаму накірунку. Былі ўжо конегадоўля, развядзенне гусей, вырошчванне навагодніх ёлачак, ды шмат чаго іншага, аднак усе пачыны ў рэшце рэшт бясслаўна скончаліся, апроч валютных паляванняў (тут поўная стабільнасць!), прыносячы справе аховы прыроды адну толькі шкоду.

На першы погляд можа падацца, што людзі займаюцца не той справай, якая б хоць неяк упісвалася ў месца; рэч у тым, аднак, што справы ўжо ідуць тут не зважаючы на месца. Па-ранейшаму на апошніх ролях навука. Сёння ў аддзеле працуе 16 чалавек (два кандыдаты навук), — гэта значыць, што калі не адбыўся разгон пушчанскай навукі, дык засталося да гэтага менш як трохі. Пра эфектыўнасць даследванняў або каштоўнасць навуковых распрацовак гаварыць бракуе сэнсу, бо так званая навуковая дзейнасць ёсць прыкрыццём зусім іншых мэтаў. Даплата да навуковага заробку з гаспадарча-камерцыйнай дзейнасці — тут аргумент красамоўны: навуку, якая рэштай ацалела, "прыкормліваюць", ставяць у абразлівую залежнасць ад сумнеўна-адыёзнага выніку той жа дзейнасці.

Ці можна такое ўявіць, калі міжволі даць сабе веры, што Белавежская пушча – аб'ект сусветнай прыроднай спадчыны і мае найадмысловы Еўрапейскі Дыплом Рады Еўропы. Цяжка. Як цяжка дапусціць і тое, што Дыплом праз тры гады не будзе адкліканы, бо з'явілася яшчэ адна вельмі сур'ёзная падстава прагназаваць несуцяшальную перспектыву.

У нацыянальным парку будуецца чарговы цэх лесаперапрацоўкі. Які па ліку – казаць не бяруся, можа, пяты, можа, дваццаць пяты— важна не гэта. Вытворчая лінія, прадукцыйнасць якой надзвычай высокая, ураз праглыне адносна невялікія запасы сухастойнай драўніны, якую цяпер у недапушчальна вялікіх памерах забіраюць у Пушчы. І тады востра паўстане пытанне сыравіны. Зрэшты, яно стаіць ужо й сёння, хоць мантаж магутнай лініі яшчэ не закончаны, — пытанне *якаснай, канкурэнтаздольнай сыравіны.* Кантракты падпісаны. За "лесапілку" (дарэчы, ужо карыстаную, купленую ў нямецкага прадпрымальніка), трэба будзе разлічвацца, што абяцае жорсткія рэаліі на заўтрашні дзень... Не засталася тайніцай і сума крэдыту, выдадзеная на "лесапільны" праект. Беларускі банк развіцця адпусціў парку 200 мільярдаў рублёў, а ўрад краіны даў дазвол Кіраўніцтву справамі А.Лукашэнкі зрабіць залог маёмасці адпаведна з сумай крэдыту...



*Часопіс "Borealis" (Канада)*

Не сакрэт, што пашырэнне вытворчай базы з колам гаспадарчых клопатаў "леспрамгасаўскага" кшталту значна павялічыць нагрузку як на прыродны, так і чалавечы фактар аб`екта сусветнай спадчыны. Заснавальнікі Еўрапейскага дыплома, у прыватнасці, маюць ужо ўсе падставы разглядаць будаўніцтва дрэваапрацоўчага прадпрыемства як замацаваную і відавочную тэндэнцыю, якая супярэчыць умовам і рэкамендацыям Рады Еўропы. Дый не варта забываць, што Дыплом не так прызнаваў заслугі, як абавязваў — ставіў краіну-абранніцу на больш высокую ступень прыродаахоўнай дысцыпліны. Аднак атрымальнікі не засяроджвалі на гэтым увагу. Адразу было бачна, што Дыплом успрымаецца аднабакова, без разумення выдадзенага авансу, неабходнасці крытычнага стаўлення да сваёй дзейнасці.

Што гэтага не зразумелі (хутчэй— свядома ігнаруюць умовы разумнага пастрымання з боку еўрапейскай структуры), яскрава сведчаць рэальныя "дрымучыя" справы і дзеянні ўладароў нацыянальнага парка, дарэчы, не абмежаваныя хоць бы такім "дамашнім" атрыбутам законапаслушнасці як Палажэнне аб нацыянальным парку "Белавежская пушча" (артыкул 24), якога дагэтуль няма, але які, калі б ён быў, шмат чым замінаў бы поўнай уседазволенасці.

І ўжо зусім не туды заехалі таварышы з адміністрацыі, калі запуск піларамы спрабуюць прышчапіць да так званага "запаведнага" юбілею Пушчы. Ці, можа, прыехалі якраз туды. Бо 60 гадоў (пасля вядомага ўз`яднання), пераважна савецкіх на тэрыторыі Пушчы, большым чынам сымбалізуюць страту запаведнасці, чымся яе трыумф. Статус запаведніка (яшчэ зусім кволы, непаўнагодкавы) быў забраны ў 1957 годзе і больш ніколі сюды не вяртаўся. Які напрамак тут сёння ўсталёўваецца, паказваюць не толькі факты жорсткага гаспадарчага ўціску на Пушчу, але і жаданне, спроба ўлады цынічна ўвязаць даўні факт яе запаведання з валютаёмкай "прыродаахоўнай дзейнасцю" ў выглядзе... эксплуатацыйных вартасцяў еўрапіларамы на тэрыторыі аб`екта нацыянальнай *і сусветнай прыроднай спадчыны.*

### ЗАКОН

**Аб асабліва ахоўных прыродных тэрыторыях і аб"ектах**

**Артыкул 14. Запаведнікі**
Запаведнікі — прыродаахоўныя навукова-даследчыя установы рэспубліканскага значэння, задачамі якіх з'яўляюцца:
захаванне ў натуральным стане прыроднага комплексу, што ўваходзіць у склад запаведніка;
правядзенне навуковых даследванняў;
арганізацыя маніторынгу навакольнага асяроддзя;
садзейнічанне ў падрыхтоўцы навуковых кадраў і спецыялістаў ў галіне аховы прыроды;
папулярызацыя прыродаахоўных поглядаў і справы аховы прыроды.

**Артыкул 20. Нацыянальныя паркі**
Нацыянальныя паркі ёсць комплекснымі прыродаахоўна-гаспадарчымі і навукова-даследчымі ўстановамі, задачамі якіх з'яўляюцца:

захаванне эталонных і унікальных прыродных комплексаў і аб'ектаў прыроды;
арганізацыя экалагічнай асветы і выхавання насельніцтва;
правядзенне навуковых даследаванняў;
распрацоўка і ўкараненне навуковых метадаў аховы прыроды і прыродакарыстання;
захаванне культурнай спадчыны (аб'ектаў этнаграфіі, археалогіі, гісторыі, палеанталогіі і інш.)
арганізацыя рэкрэацыйнай дзейнасці;
вядзенне комплекснай гаспадаркі на аснове традыцыйных метадаў і перадавых дасягненняў прыродакарыстання

### SUMMARY

*The newspaper sounds the alarm: activity in Belarusian nature reserves has been turned upside down. Instead of scientific research, profitable business projects are starting up everywhere. They are mostly firms which organise hunting or timber contracting for shipment abroad, and a huge timber processing plant has recently been opened*



 

ныя паходы ў лес недалёка ад горада. Праграма была прыблізна такой: раніцай ачышчаем лес ад пабытовага і прамысловага смецця, днём – гутарка па экалогіі і турызму, вечарам – рухавыя і псіхалагічныя гульні. Затым, калі падышла пара, зладзілі акцыю па пасадцы дрэў на вулі-цах горада і ў дзіцячых садках. Усяго за год мы пасадзілі 200 каліў садзіва. І ўсё – сваімі сіламі, без капітала-ўкладанняў".

Кожны месяц ладзілі вандроўкі. Пабывалі ў Белавежскай пушчы, на азёрах раёна, у Нясвіжы, Карпатах.

Штотыдзень збіраліся ўсім гуртам, пілі гарбату, праводзілі заняткі і ладзілі дыскатэкі. Месцам такіх сустрэч была адна з аўдыторый універсітэта (цяпер маладзёвы цэнтр "Юнацтва").

Летам пачалі браць удзел у семінарах па маркетынгу, менеджменту, стратэгічным планаванні. Сябры арганізацыі сустракаліся з прадстаўнікамі іншых грамадскіх суполак не адно Беларусі, але і суседняй Украіны (семінар па экалогіі ў Шацку). Цяпер занятыя падрыхтоўкай да ўдзелу ў працяглым праекце па экалагічнай адукацыі і маркетынгу. Арганізатарамі з'яўляюцца экалагісты з Швецыі і нашы беларускія калегі з "Экалайну" (Мінск).

У рэшце рэшт, год нашай дзейнасці даў нам цвёрдыя падставы вызначыць галоўную мэту – стварэнне адукацыйна-практычнай праграмы па экалогіі для школьнікаў.

*Юры Кажухоў,*
кіраўнік аб'яднання "Жывая зямля",
Берасце

## "Рабаванне прыродных рэсурсаў і разбурэнне экасістэмы Беларусі – пытанне для КДБ?"

У адным з папярэдніх нумароў газета звярнулася да чытачоў з пытаннем: ці адбудзецца гучная прыродаахоўная акцыя Год зямлі-2000?

Адкажу трохі няпэўна: хацелася б... Гэта значыць, што асабіста я і мае калегі-аднадумцы будуць намагацца, каб акцыя адбылася, каб дні 22-29 красавіка "агучыліся" голасам Зямлі, мовай прыроды, каб мы змаглі данесці свае турбаванні да людзей, палітыкаў, кіраўнікоў, якія прымаюць рашэнні. Дарэчы, больш радыкальныя экалагічныя арганізацыі свету ладзяць 22 красавіка акцыю Ноч Зямлі – супраць выкідаў у навакольнае асяроддзе і амаральнасці паводзін грамадства ў адносінах да Прыроды.

Наша грамадзянская экалагічная група "Ольса" (больш дакладна – грамадская экалагічная станцыя "Ольса" – гэта форма супрацоўніцтва дарослых і юнакоў, дзяржавы і грамадзян, адзін з прыкладаў сацыяльнага партнёрства (як вядо-ма, указ аб сацыяльным партнёрстве быў падпісаны прэзідэнтам нашай краіны ў 1995 годзе). У свеце ж гэтыя працэсы развіваюцца і вітаюцца даволі даўно. На жаль, у Беларусі ёсць сілы, якія гэты рух усяляк стрымліваюць і ўпотай імкнуцца сурпрацьстаяць яму.

Вяртаючыся да пытання, якое задае газета, прыгадаю хроніку Дня зямлі-1999 у Бабруйску. Напярэдадні – 17 красавіка – зладзілі экалагічны суботнік каля клуба "Радзіма". Пасадзілі дрэвы. кусты, прыбралі тэрыторыю. Удзел бралі 50 чалавек навучэнцаў – хлопцы і дзяўчаты, хто ўважае клуб, так бы мовіць, за "свой". 22.04.99. З самага ранку тэлефаную ў Маскву, віншую "Грынпіс Расія". Да Украіны не дазваніўся. У Мінску на маё віншаванне са святам вельмі прыязна адклікаецца Марыя Мікалаеўна Худая – намеснік камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу па праблемах чарнобыльскай катастрофы і экалогіі, дамаўляемся з ёй заадно і пра тэрміны правядзення адкрытых парламенцкіх слуханняў па выкананні Закона "Аб асабліва ахоўных прыродных тэрыторыях і аб'ектах". У гэты ж дзень і напярэдадні адправіў шэраг факсаў, тэлеграм, інфармацыйных лістоў на адрас афіцыйных органаў. Амаль усе яны датычылі планаванай экспедыцыі "Дзеці Зямлі-99", а менавіта – выведкі сацыяльнага стану запраектаванага Свіслацка-



* вясковы краявід.
*Стаўпеччына, 1998*
*Фота: Валеры Дранчук*

Бярэзінскага нацыянальнага парка (*пра вынікі экспедыцыі чытайце ў наступным нумары – рэд.*)

Рассылка карэспандэнцыі, якая мела не адно віншавальны характар, неўзабаве знайшла і першую рэакцыю – дырэктару дзіцяча-юнацкага цэнтра падарожжаў і краязнаўства "Бабраня" патэлефанаваў... прадстаўнік мясцовай службы КДБ і пачаў распытваць пра дзейнасць суполкі "Ольса": чым займаецца, ці зарэгістраваная юрыдычна і г.д. Без сумнення, гэта была рэакцыя насцярожанасці: так званая праверка на "добранадзейнасць". Дзіўна. Чаму грамадзянскія ініцыятывы па дзяржаўных пытаннях, якія патрабуюць рашэнняў, замест гарачай падтрымкі міністраў, іх намеснікаў і апарата выклікаюць падазрэнне? Мы ж не ваяваць збіраемся, а супрацоўнічаць. Маем за мэту ўдзельнічаць у прыняцці рашэнняў і нават садзейнічаць тым рашэнням, якія накіраваны на ўмацаванне прыроднага патэнцыялу нашай радзімы, — каб было што пакінуць дзецям. А што да КДБ, дык рабаванне прыродных рэсурсаў і разбурэнне экасістэмы Беларусі – хіба не іхняе пытанне? На жаль, пра бяспеку, сваю і сваіх нашчадкаў, сёння мусіць клапоціцца грамадскасць. І зарэгістраваныя мы перш-наперш як грамадзяне, жыхары сваёй краіны, якія дапамагаюць сваёй дзяржаве і ўсім астатнім жыхарам абараняць нацыянальныя "зялёныя" каштоўнасці. Як вядома, усе мы жывем на адной зямлі і пазычылі яе ў тых, хто прыйдзе пасля нас. Таму аддаць яе трэба лепшай, а не горшай. Вось ці заўсёды памятаем пра гэта?

*Юры Познік,*
каардынатар экалагічнай станцыі "Ольса"
Бабруйск,
Для стасункаў: вул. Дзяржынская, 50, г.Бабруйск, індэкс 213826
тэл (02251) 27004 (пасля 18.00)
факс (0225) 580554 "Ольса"

## "Вобраз Народнага банка мне даспадобы"

Шаноўная рэдакцыя!

Штонумар Вы змяшчаеце рэкламу "Беларускага народнага банка". Я наўрад ці калі скарыстаюся банкаўскімі паслугамі, бо жыву ў правінцыі дый не маю адпаведнага багацця, каб яго збярагаць. Затое паслуга "экафундацыі", спраўджаная ў кожным выпуску, акурат для мяне. На працягу двух апошніх гадоў я выпісваю Вашу газету і ўважліва прачытваю ўсё, што ў ёй друкуецца. Магу толькі жадаць, каб лёс выдання склаўся шчасліва, бо такіх, як "Белавежская пушча", сёння мала. І шаноўны банк, які стала трымае звязак з газетай, а значыць, спрые матэрыяльна, у маіх вачах выглядае прывабна і высокародна. Мабыць, выпадкаў такіх больш няма ў Беларусі, а калі ёсць, я пра іх не ведаю.

Асабліва хацеў бы сказаць і пра тое, што рэкламныя кампазіцыі мне таксама ў густ. Усё тут прадумана, да месца – і слова, і фатаграфія. Ёсць вобраз народнага банка, у які я шчыра паверыў.

Як чытач, хачу пажадаць банку паспяхова развівацца, а газеце знаходзіць як мага больш сяброў і фундатараў.

*Анатоль Асінчук,*
65гадоў
Кобрын





SUMMARY


*We print some readers' letters on the most effective ways to defend green values. In line with this theme in our constant preventative notice "Take it as a gift, return it with a bow". We share this slogan with the German chainsaw firm Stihl, which has a branch in Minsk.*

# НАШЫЯ СЛОВЫ! OUR WORDS



## Магія вешчага слова

### У "чароўных тэкстах" часам знаходзіш тое, што стасуецца з навагодняй традыцыяй жадаць і зычыць

*Мабыць, калі мы віншуем сяброў ці знаёмых з якім-небудзь святам, нам не прыходзіць у галаву, што тым самым мы трошкі чаруем, напаўняем свае зычлівыя формулы магіяй слова. І чым больш намагаемся, тым больш наша слова выглядае вешчым, прарочым. Ці валодае гэтае слова сілай, найрад ці бяром пад увагу — мы спаўняем традыцыю, імкнемся засведчыць добрае стаўленне да чалавека або сям'і, выказаць сваё пажаданне.*

*Калі чытаеш замовы ("шэпты", "малітвы", "чары"), між знаходзіш у іх тое, што ста-суецца з традыцыяй жадаць усяго лепшага і шчаслівейшага на год наступны. Адным словам, чым не калядна-навагодні матыў! Асабліва, калі ў "чароўных тэкстах" знаходзіш часам дзівоснае спалучэнне паэзіі слова з магічнасцю формул, пабытовага чараўніцтва з вобразнасцю мыслення, гэтак званых перажыткаў мінулага з таемнасцю макракосму.*

### *На шчаслівае жыццё*

#### На людскую любоў

Стану я, раба божая, рана, благаслаўлюся і перахрышчуся, выйду я на чыстае поле, пагляджу на ўсе чатыры стараны. На ўсходняй старане стаіць святая цэрква. Як на гэтую цэркву глядзяць, так бы на раба божага глядзелі старыя старухі, старыя старыкі, маленькія дзеці, красныя дзевіцы, маладыя моладцы, так глядзелі бы на раба божага.

Будзьце, словы мае, моцныя і ёмкія, як ключы падземныя. Амін.

#### На каханне

Ламаю дубіну, каб хлопцы любілі, ламаю дубіну, каб хлопцы любілі, ламаю дубіну, каб хлопцы любілі. Цар садзіў, Бог радзіў, матка Прачыстая палівала, мне на помач давала. Цар садзіў, Бог радзіў, матка Прачыстая палівала, мне на помач давала. Цар садзіў, Бог радзіў, матка Прачыстая палівала, мне на помач давала.

#### На захаванне кахання

Я святою вадою ўмываюся, золатам уціраюся, а сонейкам адзяюся, а месяцам падпяражуся, а зоркамі засцягнуся: я нікога не баюся. Як сонца і месяц на ўвесь свет свецяць, так каб я была на ўвесь свет міла і люба (імя каму).

### *На лепшае пачуванне*

#### За здароўе

Добры вечар, цёмна ноч! На табе вада і мая бяда, а мне маё здароўе назад аддай.

#### Ад усяго

Маладзічок-малайчок! Хай цябе Бог нясе на высату, а мяне на красату. Хай табе Бог дае вялікія рогі, а мне здароўечка ў ногі.

#### Ад боляў

Не бяру ад цябе ні красаты, ні высаты. А выбіраю ад цябе худыя болі з чырвонай крыві, з белай касці, з сініх жыл. Не тут табе быць, не тут табе гнёзды віць, а ідзі на чыста поле, на сіне мора, на зялёныя лугі, на крутыя берагі, на жоўтыя пяскі, на цёмныя лясы. Там тваё гулянне, там тваё красаванне, там табе быць, там табе гнёзды віць.

#### Ад хворасцяў

У цёмным лесе стаіць гара высокая, там растуць дубы вячыстыя; там стаіць цэрква свянцоная, там бяжыць вада цудоўная. А я ж тую ваду брала, балючае цела абмывала, піць давала, слаўцом вымаўляла: пайшла, немач, з цела вон! Калі ты трасца — ідзі ў балота, калі падвей — ідзі на вецер; калі ты рэзанка – зарэжся; калі ты суроцы – соль табе ў вочы; калі ты з пуду – сама спужайся. Пайшла, хіра, з цела вон!

#### Ад зубнога болю

Маладзік малады, у цябе рог залаты, на моры купаўся, нам паказаўся, табе на цёмныя ночы, а нам на светлыя вочы, вам на стаянне, а нам на здароўе, вам на высату, а нам на красату.

Першы цар – ясен месяц на небе, другі цар – зелен дуб у полі, трэці цар – белы камень у моры. Колькі тым тром царам укучы не сходзіцца, столькі рабу божаму зубам не балець, і косці не шчаміць, і крыві не псаваць. Дай Бог на помач!

#### Ад рожы

Рожа-рожа, ты непрыгожа, ідзі ты на мхі, на балоты, на гнілыя калоды, на ніцыя лозы, на сцюдзёныя росы, на быстрыя воды.

#### Ад уроку

Вадзіца-царыца, ішла ж ты лугамі і крутымі берагамі, жоўтымі пяскамі, шаўковую траву падымала і руду падмывала. Там Прачыстая Божая маці рукі мыла; я ваду браў і рабу божаму ў помач даваў.

#### На добрыя роды

Божая маці, прыйдзі мяне ратаваці, маё цела распрастаці, мае жылкі выпраўляці.

### *На добрае жывёле*

#### На пашу

Ты ідзі, мая кароўка, у поле нагамі, у травіцу рагамі, травіцы наядайся, вадзіцы напівайся, з поўнае крыніцы вадзіцы напівайся, паганым вачам не ўдавайся, а хадзі з чарадою, як муж з жаною. Глядзі чарады, як муж жаны, а брат сястры, а маці дзетак.

Ні наперад не ўбівайся, ні ззаду не заставайся. Пасярод чарады, кароўка, цягайся.

#### На малако

Добры дзень, маладзею Максім, вада Аксіння, бяру я спор з усіх рэк, мораў і азёр, з першай зары, з высокай гары. Як гэтым рэкам, морам, вадзе не ўсыхаць, так маёй чорнай карове малаку не адбываць, а прыбываць.

#### Як аценіцца

— Добры дзень, кароўка!

— Здароў!

— Прыйшла к табе я з хлебам і соллю, і ласкаю, а ты ля мяне малочна, а сама для сябе каб не была ўрочна.




*Фота: з кнігі "Беларускае народнае адзенне". Аўтар Міхась Раманюк. Мінск, 1981*

SUMMARY

*The Enchantment of Prophetic Words is the title for this collection of Belarusian folk spells: "forfeeling good", "for love", "for the fertility of domestic animals", and others.*

БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА

Заснавальнік і рэдактар Валеры Дранчук

* прыродалюбная асветна-публіцыстычная беларуская газета
* год выдання пяты, 1999
* пасведчанне аб рэгістрацыі №125 ад 27.06.96
* наклад 3500 асобнікаў
* пры перадруку спасылка на газету абавязковая

Афармленне, макет: *Валерый Дранчук*

Карэктура, вёрстка: *Уладзя Ляская*

Summary: *Марк Бэнс, Саша Годзіна*

Адрас для допісаў: 220088 Мінск, Іванаўская, 38-16. Тэл. 236-50-76, факс 220-23-53

Аўтары маюць поўнае права называць рэчы сваімі імёнамі, гаварыць адкрытым тэкстам, а несуць адказнасць за дакладнасць пададзеных звестак.

Газета надрукавана ў прыватнай друкарні "Мэджык" (Мінск, вул. В.Харужай, 13)

Падпісана ў друк 20.12.99 Замова № 1336

Кошт свабодны. У шапіках "Саюздруку" 60.000 руб.

BIELAVIEZHSKAYA PUSHCHA A Belarusian green educational newspaper. Motto: With a love for Mother Nature Contact: 220088, Miensk, Ivanauskaya st., 38-16, Phone 236-50-76, fax 220-23-53